


Ляўкоўскія першакласнікі са сваёй настаўніцай Ірынай Сухадолай.

№ 51 (1158) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 23.XII.1979 г.

У. Дубоўка

# Як я быў Дзедам Марозам

Усюды восень прыгожая і багатая, а ў Сібіры — асаблівая. У чаканні снежнае зімы прырода спяшаецца даць людзям як мага больш асалоды, харастваі пладамі, і барвамі-колерамі. Сотні адценняў залацістых і чырвоных можна пабачыць на ўзлессі. А ў самой тайзе — грыбы, ягады. Адных брусніц несканчоныя прасторы. А рабіны, а журавіны! Побач з імі гарачь-зіхацяць, аж свецяцца сваім нейкім казачным святлом незлічоныя кветкі скрыпеню, самай цікавай таежнай зёлкі.

Расце скрыпень вялікімі купінамі, цэлыя паляны займае. Асабліва любіць гарэлыя мясціны. Колькі пчолы мёду з яго наносяць! Але цікавы ён яшчэ сваёй самаахвярнасцю.

Калі прыходзіць першы мароз, усе крайнія зёлкі нахіляцца галоўкамі к сярэдзіне купіны і закрываюць сваіх сяброўак.

Памерзнуць, загінуць крайнія, а сярэднія, як толькі сонейка ўзнімецца, пачынаюць красаваць так, нібыта і марозу ніякага не было.

І так штодня: гінуць з краю, застаюцца ўсярэдзіне.

Бывае, што тыдні два цягнецца змаганне з марозам. Толькі калі снег усё засыпле, тады толькі мерзне-гіне апошні скрыпень.

У сібіракоў ёсць прыкмета, што 19 жніўня абавязкова бывае першы мароз. Пасля могуць пайсці зноў цёплыя дні, але ў гэтую ноч — пільнуйся.

За дзень перад гэтым днём пайшоў я ў краму. Ад нас яна была кіламетраў шэсць. Крамнічыхі не было, і пакупнікі чакалі колькі часу на вуліцы. Я не адразу звярнуў увагу на тое, што мяне тузае за пінжак маленькі хлопчык. Тузае і нешта згадвае Дзеда Мароза ды агуркі. Урэшце я прыгнуўся да яго і запытаўся:

— Што табе, хлопчык, трэба?

Хоць не адразу, але з яго слоў я даведаўся вось пра што. Ён, гэты юны грамадзянін, быў ласы да агуркоў. А бабуля яму сказала, што сёння прыйдзе Дзед Мароз і памарозіць усе агуркі. Вось ён і пайшоў з хаты шукаць таго Дзеда Мароза, каб папрасіць яго не чапаць агуркі. Заўважыўшы ў натоўпе ля крамы высокага дзеда з белай барадой, ён адразу ж падышоў да яго, гэта значыцца да мяне, і пачаў прасіць, каб я абмінуў іхні агарод.

Што рабіць! Прыйшлося ўзяць грэх на душу. Не стаў я адмаўляцца, што я не Дзед Мароз.

— Сынок! Ідзі і скажы сваёй бабулі, што я вашых агуркоў чапаць не буду.

Малы радасна пабег да свае хаты, каб сказаць бабулі такую прыемную навіну.

На шчасце, у гэтую ноч марозу не было і агуркі засталіся цэлымі. Мароз стрымаў сваё абяцанне...

# ЧЫТАЕМ і пішам

## Жарт.

– Цімох, Цімох, колькі ў
твайго каня ног?
– Як стаіць – чатыры. А як
бяжыць – не паспею палічыць.

Коля елкі ў зайчышку
раскладае дзясцел шышкі.
Лічыць, колькі штук.
Стук, стук, стук.

Не хадзі, каза, на грады.
Там табе ніхто не рады.
Ні часнок, ні агуркі,
ні гарох, ні буракі.

# МУЖЫК І ЦАР

**(Руская народная казка)**

Жыў-быў цар. Больш за ўсё на свеце любіў той цар казкі слухаць. І ўсё яму хацелася новых ды новых казак. Прыдворныя казачнікі ўсе казкі, якія ведалі, расказалі, і ніхто больш цару дагадзіць не мог. Загадаў цар абвясціць:

— Ажаню са сваёй дачкой і паўцарства аддам таму, хто раскажа казку, якой я яшчэ не чуў.

Ахвотнікаў знайшлося шмат: і князі, і баяры, і генералы, і купцы — ды ўсё дарэмна. Толькі хто пачне расказваць якую-небудзь казку, а цар ужо крычыць:

— Ведаю, ведаю, чуў я гэтую казку!

На тым справа і скончыцца. Таго жаніха і прагоняць.

А ў тым царстве жыў, гора гараваў бедны мужык. Ні хаты, ні гаспадаркі ў яго не было. Жыў, дзе давядзецца, піў, еў, што прыйдзецца. Іншы дзень надгаладзь, а іншы дзень і зусім не еўшы сядзеў. Неяк раз зайшоў гэты маладзец у шынок пагрэцца, выпіць кілішак віна. Шынкар з яго пасмейваецца:

— Чаму не ідзеш цару казкі расказваць? Нябось царэўна ўсе вочы прагледзела: цябе чакае, жаніха, не дачакаецца.

Слухае бядняк гэтыя кепікі, а сам думае: „Давай пайду паспрабую шчасця. Царскім зяцем мне не быць, а хоць дзень-другі сыты буду.“

Прыйшоў у палац. Цар пытаецца:

— Чаго, мужык, прыйшоў?

— Хачу табе, царская вялікасць, казку расказаць. Толькі загадай спярша накарміць, напаіць мяне.

Цар на яго паглядзеў і ўсміхнуўся: „Ну і жаніх! Кашуля латаная-пералатаная, лапці вяроўкаю падвязаны“. Але згадзіўся.

Мужыка накармілі, напаілі. Цар паклікаў блізкіх баяр ды дарадчыкаў і загадвае малайцу:

— Расказвай сваю казку!

— Мой нябожчык бацька, — пачаў мужык, — быў самы багаты чалавек у нашым царстве. Збудаваў ён высокі палац. Па даху палаца галубы хадзілі ды з неба зоркі здзёўбвалі. Вось які высокі палац той быў! А двор у нас быў такі, што за цэлы летні дзень голуб не мог праляцець з канца ў канец.

Цар маўчыць, і баяры маўчаць, не перапыняюць, а мужык кажа:

— Далей расказваць буду заўтра, пасля абеду, пад'еўшы пірагоў ды мяккага хлеба.

І пайшоў на кухню вячэраць.

На другі дзень увечары пачаў ён расказваць казку далей:

— І стаяў у нас на двары бугай-

сямігодак. На адным розе сядзеў у таго бугая пастух, а на другім — яшчэ адзін. Пастухі ў трубы трубілі, на дудках ігралі, песні спявалі, а адзін аднаго ў твар не бачылі і голасу не чулі. Вось які быў у нас бугай здаравенны!

Маўчыць цар, не перапыняе, і баяры маўчаць. Казачнік устаў і кажа:

— Заўтра казку скончу, а сёння адпачываць пара.

І пайшоў на кухню вячэраць. Тады цар і пытаецца:

— Што будзем рабіць, баяры? Такой казкі я не чуў, а аддаваць сваю дачку за мужыка-лапцюжніка не хачу. Прыдумайце, як казачніка абхітрыць.

Князі ды баяры пачалі думу думаць. Думалі-думалі і прыдумалі:

— Скажы, цар-гасудар, што ты гэтую казку чуў, і мы ўсе пацвердзім: „Ведаем, маўляў, чулі пра гэта“. А каб больш пэўна было, загадай пра гэта грамату напісаць, і пад той граматай мы ўсе подпісы паставім.

На гэтым і пагадзіліся.

Мужык пра змову праведаў, а выгляду не паказвае.

На другі дзень, быццам нічога не здарылася, прыйшоў пасля абеду, сеў і пачаў казку далей расказваць:

— Была ў майго нябожчыка бацькі кабыліца, за тры дні вакол зямлі аббягала...

Князі ды баяры з царом пераглядваюцца, у бароды пасмейваюцца, а казачнік працягвае:

— Золата ды серабра ў нас былі поўныя свірны насыпаны. І ты, цар-гасудар, у той час пазычыў у нас скрыню золата і дагэтуль яшчэ не аддаў...

Тут цар як закрычыць:

— Ведаю, ведаю!

І князі ды баяры падтакваюць:

— Ведаем, чулі гэтую казку і грамату аб гэтым падпісаць згодны!

З месцаў схапіліся, подпісы пад граматай паставілі. Узяў мужык грамату і кажа:

— А калі чулі ды грамату аб гэтым падпісалі, дык плаці доўг, царская вялікасць!

І тут цар здагадаўся:

— Абхітрыў мяне мужык-лапцюжнік!

Ды нічога не зробіш: што напісана пяром — таго не вырубіш тапаром. Давялося насыпаць скрыню золата. Мужык грошыкі ўзяў і стаў жыць як мае быць. І да гэтага часу жыве ды пасмейваецца.





# ПАГЛЫБЛЯЙ



# СВАЕ ВЕДЫ



## РЭЧКІ-ПАДАРОЖНІЦЫ

На Далёкім Усходзе цячэ рэчка з незвычайнай назвай Кантравод. Яшчэ больш незвычайна яна заходуваецца. Раз на тры месяцы рэчка мяняе цячэнне і ўпадае то ў прыток Амура, прыгажуню Усуры, то ў таежны Бікін.

На поўначы Камчаткі ёсць яшчэ больш дзіўная рэчка Пенжына. Яна ўпадае ў Пенжынскую губу, месца, якое славіцца сваімі высокімі марскімі прылівамі. Пачынаецца прыліў, і рэчка паварочвае назад, бяжыць уверх па цячэнню. А калі спадае прыліў, Пенжына хутка скатваецца ўніз, у мора, і цячэ па-ранейшаму, як бы нічога не было.

## МАЛПЫ-ПАДВОДНІКІ

На востраве Ява жывуць малпы, якія вельмі любяць жывіцца жыхарамі мора: малюскамі, рачкамі і іншай драбязой. І вядома, малпам за гэтымі ласункамі даводзіцца ныраць пад ваду. Нярэдка здараецца, што малпам пад вадой даводзіцца ўступаць у барацьбу з падводнымі драпежнікамі.

На паляванне пад ваду малпы часта бяруць і сваіх дзецянят. Тыя, гледзячы на дарослых, вучацца ныраць, прызвычайваюцца да вады, а потым і самі палююць пад вадой.

## ЧАСНОЧНЫ КОНКУРС

На поўначы Францыі ёсць невялічкі гарадок Арль, жыхары якога з даўных часоў вырошчваюць часнок. Кожны год яны адзначаюць свята часнаку. Часам у свята арганізуюцца конкурсы, хто больш з'есць часнаку за дзесяць мінут. Пераможца конкурсу атрымлівае вянок часнаку, якога яму хапае на ўсю зіму.

## НАЙЛЕПШЫ МАТЭРЫЯЛ

У Швецыі многія рэчы робяцца з паперы. Амаль усе дзеці выхоўваюцца ў папяровых пялёнках. А ў бліжэйшыя дваццаць год, як кажуць, большасць шведаў будзе сядзець на папяровых крэслах, апранацца ў папяровую адзежу, спаць на папяровых просцінах, выцірацца папяровымі ручнікамі.

## ФЕРМА МЫШЭЙ

У французскім горадзе Гаўры ёсць дзіўная ферма, на якой гадуюцца тысячы мышэй і пацукоў. Магутнасць фабрыкі ў год — адзін мільён пацукоў і паўмільёна мышэй. Каму ж патрэбна гэтая дзіўная прадукцыя? Яна вельмі патрэбна вучоным для розных доследаў.

## ДЗІЎНЫЯ ФАРБЫ

Вучоныя заўважылі, што некаторыя фарбы змяняюць колер пад уздзеяннем тэмпературы. Значыць, фарбы могуць спаўняць ролю тэрмометраў. Важную дэталь машыны пакрываюць такой фарбай, і як толькі дэталь змяняе колер — стоп! — дэталь у небяспецы. Прадукуюцца ўжо цэлыя наборы дэталяў-тэрмометраў на патрэбы тэхнікі.

**В. ЛУКША**

## КАЛЮЧЫ КВАТАРАНТ

*У нашай Тані сёння свята.*
*Шчасна усміхнуўся лёс —*
*Вожыка ляснога тата*
*Ў хату жыць да нас прынёс.*

*Ціха пасядзеў з хвілінку,*
*Пашыпеў, нібы гусак,*
*Спіць пад цёплаю прасцінкай*
*Кватарант калючы ў смак.*

*Мы яму паклалі мяса,*
*Мы прынеслі малака.*
*Хоць да мяса вожык ласы,*
*А да прыцемак чакаў.*

*...За акном — суквецце зорак.*
*Ноч ўладарыць за акном.*
*Вожык ноччу у дазоры,*
*Вожык вывучае дом.*

*Не заснула мама*
*Тата*
*Ўстаў пахмурны, злосны ён:*
*— Гэта вожык вінаваты.*
*Наш забраў спакой і сон.*
*Гэта ён грымеў ад рання,*
*Быццам статак вепрукоў.*
*Цацкі ўсе у нашай Тані*
*Параскідваў, папароў.*
*Гэта ён*
*Патрушчыў краскі,*
*Польскі слоўнік пашматаў*
*Нібы ноччу вожык казкі*
*Для сябе перакладаў.*

*І сказалі мама з татам:*
*— Сёння ноччу падглядзім:*
*Калі зноў забрудзіць хату,*
*То суседзям аддадзім.*

*...За акном — суквецце зорак.*
*Ноч ўладарыць за акном.*
*Вожык ноччу у дазоры,*
*Вожык вывучае дом.*

*Мама кажа:*
*— Дзіва — вочкі!..*

*Тата кажа:*
*— Ён пайшоў!..*
*Ералаш рабіць не хоча!..*
*І не чутна капыткоў!..*

*Мама кажа:*
*— Пачастуем*
*Мы смятанкай жыхара.*

*Тата з гарлачом прастуе:*
*— Еш, калючы кватарант.*

*Цікавалі аж да сонца.*
*Смеху, смеху ад душы.*
*Рады вожыку бясконца,*
*Бы у нас сто год ён жыў.*
*Зніклі мышы ў нашай хаце.*
*Тата кажа:*
*— Вось дык я!..*
*Гэтулькі прыдбаў вам шчасця.*
*Ух-х! Калючынка мая!..*

*Мама кажа:*
*— Вочкі — дзіва!..*

*Тата кажа:*
*— Прыгажосць!*
*Хай жыве у нас шчасліва*
*Любы наш, калючы госць!*

*Тані радасна і светла.*
*Як пад коўдрай не спяваць?!*

*(Працяг на стар. 8)*



## Пазнаёмімся

* ❊ *

373250, Азер. ССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 58. Красникова Инна. Дзяўчынка вучыцца ў восьмым класе.

* ❊ *

370010, Азер. ССР, г. Баку, ул. Первомайская, 251, бл. 5, кв. 110. Наиля Искендорова. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ❊ *

СССР, 183034, г. Мурманск, ул. Лобова, д. 11/6, кв. 41. Любавиной Жене. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ❊ *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 165, кв. 74. Ларыса Іванова, вучаніца сёмага класа.

* ❊ *

БССР, 220060, р. Мінск-60, вул. Р. Люксембург, 165, кв. 79. Лена Вярэніч, вучаніца сёмага класа.

* ❊ *

СССР, 183017, г. Мурманск-17, ул. Лобова, 33/2, кв. 27. Сабельниковой Тане. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

* ❊ *

СССР, 107529, Москва, ул. Байкальская, дом 48, корпус 2, кв. 123. Ефимовой Наталье. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* ❊ *

СССР, 107589, г. Москва, ул. Байкальская, д. 48, корп. 2, кв. 202. Лена Михайлова. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* ❊ *

СССР, 183017, г. Мурманск-17, ул. Лобова, д. 34, кв. 15. Тане Андреевой. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе.

*(Працяг са стар. 7)*

### КАЛЮЧЫ КВАТАРАНТ

*Як дзіцячыя „сакрэты“*
*Ёй бацькам не перадаць?*

*Што Калючыку сказала:*
*— Ты паводзь сябе як след.*
*Бачыш — цацкі я прыбрала,*
*Ў тэрмін села за абед.*
*Я бацькам без напаміну*
*Усё рабіць дапамагла.*
*Тата ўсклікнуў:*
*„Ой, дзяўчынка!*
*Здзівіць ўвесь свой першы клас!“*
*Не рабі, Калючык, прыкра,*
*Людзям добрае дары,*
*І заўсёды добры прыклад*
*З Тані у жыцці бяры!*

## Адгаданка







*Якія з панумараваных квадрацікаў з'яўляюцца фрагментамі верхняга малюнка?*